**На работы** некалькі дзен таму назад зноу пачалі хватаць мясцовых жыхароу. Пры гэтым нават і старыкоу прымушаюць выпауняць цяжкіе работы.

**Амбуляторыі** са льготнай выдачай лякарствау мае адчыніць у розных часьцях гораду тутэйшае т-во дактароу. У амбуляторыях будуць прынімаць дактары спэцыялісты па усім занядужаньням. Будзе устаноулена танная плата.

**У судзе.** Старшыня Акружнага Суду п. Петрусевіч падау на пацьвярджэньне вышэйшай улады заяву аб павялічэньні ліку міравых судзьдзяу, каб замест 39 было 50.

**Назначэньні.** Подлуг зазвау старшыні Акружнага Суду, п. Петрусевіча, назначаны: п. Даніловіч памоцнікам пракурора Акружнага суду і п. Э. Камарніцкі на такую-ж пасаду.

П. Грабоускі назначаны віцэ-старшынею III аддзелу, каторы мае быць апэляцыйнай інстанцыяй для спрау міравых судоу.

**Шайка налетчыкау** трэцьцяга дня была захвачана крымінальнай паліцыяй. Яны сазналіся у тым, што пад відам жандармау забіралі у насяленьня грошы і інш.

**У злучаным саюзе коопэратывау** адтрыманы для выдачы коопэратывам рэзінавые падошвы, кальошы і г. д.

**Сукно і палатняные ткані** прыбудуць з Варшавы і з заграніцы у хуткім часе для одпуску насяленьню па недарагім цэнам.

**Малочные прадукты.** У хуткім часе организуецца акуратная дастаука у Менск з Варшавы малочных вырабак па даступнай цане.

**Газа і газовы алей.** У магазіне п. Барона на Добрамысьленскай вул. № 10 будзе прадавацца газа і газовы алей па 50 р. пуд.

Скаргі аб прадажы па даражэйшай цане павінны быць пададзены у Гандлевэ-Прамысловы Аддзел (Падгорная 14).

*Рэдактар-выдавец*
*Ядв. ЛУЦЭВІЧ.*



Друкарня Інвалідау, Менск.